



ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK
Die Administration: (13b) München 15, Schwanthalerstr. 48/II, Rückgebäude

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 8, Rosenheimer Str. 46 a

**Цана паза Нямеччынай:** ЗША — 15 цэнтаў, Канада — 15 ц., Ангельшчына — 1 шылінг, Францыя — 20 фр., Бэльгія — 5 фр., Аўстралія — 1 шылінг, Аргентына — 2 пэзо. У іншых краінах раўнавартасьць 15 ам. цэнтаў. Падпіска на год — з разьліку 52 нумароў, на паўгода — 26 нумароў, на 3 месяцы 13 нумароў паводля вышэйшае цаны. Цана лётніцкай поштай у заакіянскія краіны — 30 ам. цэнтаў. — Падвойныя нумары каштуюць падвойна

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 19 (201) — Нядзеля 16 травеня 1954 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 8


# Камуністыя ў наступе: і ў Індакітаі і ў Жэнэве

### ДЫЕН-БІЕН-ПГУ — СТАЛІНГРАД ДАЛЁКАГА ЎСХОДУ

Бойка за здабыцьцё камуністымі французкай крэпасьці ў паўночным Індакітаі Дыен-Біен-Пгу была найвялікшай і найбольш зацятай у цэлай індакітайскай вайне. Французскі й ветнамскі гарнізон пад камандваньнем генэрала дэ Кастры, пасьля васьмітыднёвай гэройскай абароны перад пераважаючымі ў шэсьць разоў сіламі ворага, 7 травеня быў змушаны здацца, вычарпаўшы літаральна ўсе сяродкі абароны. На пабаёвішчы, зрытым артылерыйскімі ямамі, асталіся тысячы забітых і раненых, а каля 10 тысяч Французаў, жаўнераў французскай чужаземнай легіі і Ветнамцаў доўгай калёнай памашыравалі пад эскортаю ветмінскіх камуністых на поўнач у лягеры ваеннапалонных. Гэтак трагічна закончыўся найбольш кульмінацыйны акт індакітайскай драмы.

Бойка за Дыен-Біен-Пгу, як і ейныя вынікі маюць ня столькі стратэгічнае, сколькі палітычнае значэньне. Гэта ня прыпадак, што камуністыя Ветміну, моцна ўспамаганыя кітайскай зброяй, прыпусьцілі галоўны штурм якраз напярэдадні Жэнэўскай канфэрэнцыі і ў першыя дні ейнага трываньня. Яны не шкадавалі вялізарных стратаў, абы толькі выйграць баталію і гэтым паставіць Жэнэўскую канфэрэнцыю, якая мае вырашыць індакітайскае пытаньне, перад дакананым фактам мілітарнае перавагі камуністых. Выйграная камуністымі мілітарная афэнзыва ў Азіі дала магчымасьць Молатаву й ягоным азіяцкім сатэлітам нахабна ўзмоцніць і палітычную афэнзыву ў Жэнэве. Мала таго, што Захад мусіў перайсьці да дэфэнзывы, але гэтую дэфэнзыву, дзякуючы паглыбленьням разыходжаньняў між заходнімі дзяржавамі, значна й аслабіць ды шукаць далейшых кампрамісаў з камуністымі.

Гэткае палітычнае значэньне камуністычнае перамогі ў Індакітаі. Але гэтая перамога мае й іншы, ня менш грозны аспэкт. Яна з гледзішча стратэгічнага адкрыла камуністым дарогу да далейшых перамогаў. Ня гледзячы на цяжкія страты пад Дыен-Біен-Пгу, іхная актыўнасьць не аслабла, але сталася яшчэ інтэнсыўнейшай. Наступнай іхнай мэтай ёсьць апанаваньне дэльты Чырвонай ракі і здабыцьцё гораду Ганоі — ключовых стратэгічных пазыцыяў у Індакітаі і найважнейшых правінцыяў з гледзішча гаспадарскага і мінэральных багацьцяў. Да гэтай новай афэнзывы камуністыя ўжо старанна прыгатаўляюцца тады, калі ў Францыі ўзмоцніліся дамаганьні выйсьці наагул зь індакітайскай вайны. Настроі ў Францыі тым больш небясьпечныя ў сувязі яшчэ з тым, што няма ніякіх пэрспэктываў, каб іншыя дзяржавы Захаду, ЗША і Вялікабрытанія, наважыліся ў хуткім часе збройна інтэрвэньяваць у Індакікаі.

Таму заходняя прэса пачынае што раз шырэй пісаць аб тым, што Дыен-Біен-Пгу адыграе ролю далёкаўсходняга Сталінграду. Як ведама, адбіцьцё Саветамі Сталінграду ў вапошнюю сусьветную вайну сталася зваротным пунктам для ўсей усходняй кампаніі, бо ад таго мамэнту Гітлер, які дагэтуль пасоўваўся ўсьцяж пераможна наперад, быў змушаны здаваць адну за другой пазыцыі аж пакуль савецкая армія не дасягнула Бэрліна. Дык і ў Індакітаі здабыцьцё Дыен-Біен-Пгу можа стацца пачаткам канца індакітайскай кампаніі ў выгадным для камуністых сэньсе, калі Захад не здабудзецца на безадкладную й станоўчую контракцыю, ужо не палітычную, але мілітарную. Але ці здабудзецца?

### АДЗІНСТВА ЗАХАДУ ЗАХІСТАЛАСЯ

Падчас Бэрлінскай канфэрэнцыі пазыцыя трох заходніх вялікадзяржаваў была згодная й станоўчая. Калі гэтым Захад ня змог нічога ад Саветаў дабіцца, дык нічога й ня страціў, а навет палітычна ўзмоцніў сваё становішча. Затое ў Жэнэве гэтае адзінства Захаду моцна пахіснулася.

Яшчэ тры тыдні перад канфэрэнцыяй Францыя, апынуўшыся ў бязвыхаднай сытуацыі ў Індакітаі, зьвярнулася 4 красавіка да ЗША з просьбай безадкладнай мілітарнай помачы й безадкладнага масавага ўвядзеньня ў дзеяньне амэрыканскай ваеннай авіяцыі ў Індакітаі. Праўдападобна Французы разьлічвалі на тое, што такі крок Амэрыкі яшчэ ня выклікча пашырэньня вайны, затое паставіць камуністых перад эвэнтуальнасьцю вялікіх для іх стратаў і выратуе абсаджаную крэпасьць Дыен-Біен-Пгу. Амэрыка схілялася да просьбы Францыі, але зусім інакш зарэагавала на гэта Вялікабрытанія. Калі ўрад зьвярнуўся да яе з прапановай супольнага мілітарнага дзеяньня на індакітайскім фроньце, Лёндан адказаў станоўча — не! Вялікабрытанія ўважала, што высылка ў Індакітай толькі авіяцыі яшчэ будзе недастатковым мерапрыемствам, каб надаць іншы ход вайне. У сьлед за авіяцыяй прыйдзецца тады пасылаць і наземныя збройныя сілы, што няўхільна прывядзе да пашырэньня вайны, чаго Вялікабрытанія панічна баіцца. Апрача гэтага, Вялікабрытанія трымалася пагляду, што нельга прадпрыймаць у Індакітаі ніякіх новых мілітарных крокаў, пакуль ня скончыцца Жэнэўская канфэрэнцыя. Дык і Амэрыка, будучы спараліжаванай адмовай Вялікабрытаніі, збройна інтэрвэньяваць на собскую руку адмовілася, у дадатку тлумачучыся, што Айзэнгаўэр ня мог пачаць такой інтэрвэнцыі бяз згоды Кангрэсу.

Гэтае разыходжаньне паміж ЗША і Вялікабрытаніяй яшчэ больш паглыбілася на самай Жэнэўскай канфэрэнцыі й асягнула крытычную фазу. У той час, калі амэрыканскі міністар Дальлес, ня верачы ў дасягненьне ганаровага для Захаду кампрамісу з Саветамі, дамагаўся гаварыць зь імі мовай станоўчай і з пазыцыі сілы, Вялікабрытанія й Францыя выказалі поўную слабасьць. Брытанскі міністар замежных справаў Ідэн выявіў навет свой капітуляцыйны плян падзелу Індакітаю на часьць камуністычную й часьць антыкамуністычную, падобна як гэта ёсьць у Карэі, Нямеччыне і Аўстрыі. Хаця супраць такога пляну станоўча запратэставалі самі Ветнамцы, гэта аднак не паўстрымала Вялікабрытаніі й Францыі ад шуканьня розных далейшых кампрамісаў з камуністымі, зразумела, ко-

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Выканайце Ваш абавязак

**Наш тыднёвік «Бацькаўшчына» апынуўся апошнім часам у цяжкім матарыяльным палажэньні. Як нашыя чытачы маглі ўжо заўважыць, у сувязі з гэтым мы часова перапынілі выдаваньне гэтак патрэбнага ілюстраванага дадатку для дзяцей «Каласкі». У сувязі з гэтым і далейшае выдаваньне найлепшых твораў нашае мастацкае літаратуры Выдавецтвам «Бацькаўшчыны» знаходзіцца пад вялікім знакам запытаньня.**

**Прычынай матарыяльнага крызысу «Бацькаўшчыны» зьяўляюцца ў першую чаргу неахайныя дачыненьні да яе ейных чытачоў, як і ўсяго нашага грамадзянства наагул ды ягоных арганізацыяў. Пазытыўная ацэна апошнімі нашае выдавецкае дзейнасьці й разуменьне ейнае нацыянальнае ролі і выконваньне іхных матарыяльных забавязаньняў перад гэтай дзейнасьцю не зьяўляюцца, на жаль, прапарцыянальнымі. У папярэднім нумары газэты, з нагоды выхаду ейнага двухсотага нумару, мы пісалі, што шырокія колы нашае грамадзкасьці высока цэняць нашую газэту, разумеюць ейнае вялізарнае нацыянальнае значэньне і ахвотна зь ёй супрацоўнічаюць. Сяньня мы змушаныя адцеміць, што гэтае дацэньваньне ролі «Бацькаўшчыны» і супрацоўнічаньне зь ёю, на жаль, не расьцягвалася на належнае ейнае матарыяльнае падтрыманьне. Людзі прывыклі былі ўважаць, што паколькі іхная газэта выходзіць рэгулярна й яшчэ здабываецца на такі «люксус», як дадатак «Каласкі» і інтэнсыўнае выдаваньне беларускіх кніжак, значыцца, матарыяльны стан выдавецтва зьяўляецца здавальняючым. А калі мы ад часу да часу зьвярталіся з заклікамі матарыяльнае дапамогі, дык многія ўважалі, што робім гэта толькі па тое, каб мець яшчэ большы прыбытак. Гэтыя людзі, на жаль, ня ведалі, што й дасюлешняя нашая выдавецкая дзейнасьць вымагала шмат ахвярнасьці і што ўвесь рэдакцыйны й адміністрацыйны пэрсанал працаваў бясплатна, што людзі, сьведамыя ўзапраўднага палажэньня нашага выдавецтва, рабілі ўсьцяж вялізарныя натугі, каб яго ўтрымаць і далей разьвіваць.**

**Неахайнасьць і матарыяльная абыякавасьць шырокіх колаў нашых чытачоў, пры іхным агульным дацэньваньні ролі й значэньня нашае газэты, даходзіла да таго, што многія зь іх, навет актыўныя нацыянальныя працаўнікі, не ўважалі за патрэбнае наагул плаціць за газэту ейнае намінальнае, пры гэтым мінімальнае, вартасьці, некаторыя нашыя кальпартэры ня вывязваліся із сваіх фінансавых забавязаньняў, а бальшыня нашых арганізацыяў, ня гледзячы на частыя просьбы й заклікі, не хацела папупіцца пашырыць кола нашых падпішчыкаў і зарганізаваць матарыяльную помач для газэты. Вось тыя аснаўныя прычыны, якія й прывялі да сяньняшняга цяжкага крызісу.**

**А ўсё гэта зьяўляецца вялікай нацыянальнай шкодай і ня вельмі пахвальна сьветчыць аб нашым грамадзтве й ягоным разуменьні сваіх мінімальных нацыянальных і грамадзкіх абавязкаў. Калі-б такія далейшыя дачыненьні прывялі до поўнага заняпаду нашай выдавецкай справы, дык быў-бы гэта наш вялікі нацыянальны сорам навет і для тых, што з сваіх забавязаньняў перад газэтай вывязваліся найлепей. Гэта было-б нясьцёртай плямай у нашым грамадзкім жыцьці, плямай для кажнай нашай арганізацыі, для кажнага з нас пэрсанальна.**

**Але пры ахвоце й добрай волі ўсякую памылку, пакуль ня позна, можна паправіць. Можна паправіць і памылку ў дачыненьні да нашага выдавецтва, тым болей, што натугі для гэтага патрабуюцца мінімальныя. Таму мы й заклікаем нашае грамадзянства ўва ўсіх краінах ягонага расьсяленьня шчыра адгукнуцца й безадкладна пачаць судзейнічаць з намі з мэтаю паправы нашай матарыяльнай сытуацыі і тым самым памагчы ўзноў так наладзіць нашую выдавецкую дзейнасьць, якой была яна дагэтуль. Практычна мы просім і заклікаем безадкладна правесьці наступнае:**

**1. Усе тыя, што залягаюць з падпіскай за «Бацькаўшчыну», безадкладна павінны ўрэгуляваць і аплаціць падпіску наперад, каб ня было залегласьцяў у будучыні.**

**2. Прыдбаць новых падпішчыкаў газэты. Мы прапануем, каб кажны дасюлешні падпішчык прыдбаў што наймяней аднаго новага підпішчыка.**

**3. Мы апэлюем да ўсіх нашых арганізацыяў і нашых шчырых сымпатыкаў праводзіць сыстэматычна прапагандовую акцыю за падтрымліваньне й пашырэньне нашае газэты, выясьняючы ейную нацыянальную ролю й практычную вар-**

(Заканчэньне на 2-ой балоне)

# Ньюерскі парад ляяльнасьці

Бальшавіцкі таталітарызм ужо даўно перахапіў ад вольных працоўных сьвету традыцыйнае работніцкае сьвята 1-га травеня. Усюды, дзе толькі былі і ёсьць камуністычныя арганізацыі, яны выкарыстоўвалі і выкарыстоўваюць на загад чырвонае Масквы сьвята працы дзеля падбуральных мэтаў, выгадных і патрэбных тэй-жа Маскве.

Так неяк склалася і ў вольнай Амэрыцы, што тут, а асабліва ў Нью-Ёрку, ад даўжэйшага часу 1-га травеня дэманстравалі толькі камуністыя ды абдураныя імі іхныя выпадковыя, часовыя сымпатыкі ды розныя прыхвасьні.

Аднак, ужо ад колькіх гадоў, здаровы амэрыканскі грамадзкі арганізм, як гэта й бывае ў запраўды вольным краі, пачаў рэагаваць на гэныя вызываючыя камуністычныя паходы собскім парадам — парадам ляяльнасьці да амэрыканскае дэмакрацыі і ейных асноваў свабоды.

Ініцыятарам гэткіх парадаў была магутная амэрыканская арганізацыя Вэтэранаў Замежных Войнаў ЗША. Пад ейным кіраўніцтвам цяпер і адбываюцца штогод парады ляяльнасьці ў Нью-Ёрку. Сваім удзелам у парадзе ляяльнасьці грамадзкасьць паказвае, што паходы ізь сьцягамі, на якіх красуюцца эмблемы сярпа й молата, эмблемы прыгону й зьдзеку, ня рэпрэзэнтуюць Нью-Ёркскай шматмільённай мэтраполіі, дзе жывуць прадстаўнікі амаль усіх этнічных групаў сьвету, а ў тьм ліку і Беларусаў.

Праз парад ляяльнасьці грамадзкасьць Нью-Ёрку выказвае, што камуністыя ня выражаюць народнай волі ані амэрыканскага народу, ані жыхароў Нью-Ёрку і ня маюць ніякага права гаварыць і выступаць ад імя гэтага народу, бо само грамадзтва аб сабе можа і ўмее гаварыць сваімі собскімі спосабамі.

З гэтага гледзішча, Беларусам, што пашчасьціла вырвацца ад няпрошаных камуністычных «апякуноў» ды апынуцца ў ЗША, неабходна добра ўсьведаміць вялікую вагу іхнага ўдзелу ў штогодніх парадах ляяльнасьці, бо праз выражэньне сваёй ляяльнасьці да ЗША ды ідэялаў гэтага вольнага краю мы адначасна выражаем і сваю прывязанасьць да Беларусі, што змагаецца за вызваленьне і спадзяецца на дапамогу й прыязьнь ЗША, а таксама выражаем і сваю непахіснасьць і наважанасьць у змаганьні із камуністычнай пошасьцю заўсёды і ўсюды. Праўда, Беларусы Нью-Ёрку і ваколіцаў, як толькі тут зьявіліся новыя эмігранты і стварылі свае арганізацыі, навязалі лучнасьць із амэрыканскай арганізацыяй вэтэранаў, а яна ў сваю чаргу запрашае нас праз Управу БАЗА да штогодняга ўдзелу ў вагульным паходзе.

І вось, ужо колькі гадоў, як па галоўнай магістралі Нью-Ёрку — 5-ай Авэню, машыруюць беларускія вэтэраны, скаўты, моладзь, мужчыны й жанчыны ў нацыянальнай вопратцы, із сваімі белчырвона-белымі сьцягамі, плякатамі й лёзунгамі. Гэтак, як і ў мінулыя гады, і сёлета, у парадзе ляяльнасьці ўдзельнічала беларуская група БАЗА — вэтэраны, скаўты, моладзь, дарослыя. Нью-Ёркскай Радай Вэтэранаў Замежных Войнаў ЗША маршалкам групы Беларусаў быў вызначаны ген. Ф. Кушэль, а камаршалкам — др. В. Тумаш. Шкода толькі, што сёлетні ўдзел Беларусаў у парадзе ня быў гэтакі масавы, а Беларусы із г. зв. Кангрэсавага Камітэту дык і зусім чамусьці не зьявіліся. У гэтак важнай справе, як удзел у парадзе ляяльнасьці, пара ўжо даўно адкінуць усялякія дробныя непаразуменьні ці арганізацыйныя падзелы — навонкі Беларусы павінны выступаць, як прадстаўнікі адзінай нацыі.

Ужо задаўга да пачатку параду, уздоўж маршруту, абапал 5-ай Авэню, ад 95-ай да 62-ой вуліцы, сабраліся тысячы гледачоў, а каля 68-ай вул. пачалі запаўняцца гасьцёвыя трыбуны прадстаўнікамі ад розных арганізацыяў і нацыянальнасьцяў, карэспандэнтамі амэрыканскіх і чужамоўных газэтаў, фоторэпартэрамі.

А 1 г. 15 час. папаўдні пачаўся парад. Першымі накіраваліся да галоўнае трыбуны галоўны маршалак параду із сваімі асыстэнтамі, сябры Камітэту параду ды ганаровыя госьці: прадстаўнікі вышэйшага духавенства ўсіх веравызнаньняў, мэр гораду Нью-Ёрку Вагнэр, Бэрнард Барук і шмат шмат іншых выдатных асобаў. Яшчэ да гэтага, прадстаўнікі Камітэту параду запрасілі на галоўную трыбуну Архіяпіскапа ВАПЦарквы Уладыку Васіля.

Калі кіраўнічая група ды ганаровыя госьці падыйшлі да галоўнае трыбуны і занялі свае месцы, пад акампаніямэнт аркестры 1-ай Арміі праз мікрафон спэцыяльна запрошаны сьпявак выканаў Амэрыканскі Нацыянальны Гымн.

Пасьля гэтага паплылі перад трыбунамі дывізіі ўдзельнікаў параду. У паветры мігацелі ды іскрыліся вясёлкавымі колерамі шматзорныя сьцягі Амэрыкі і ўсіх народаў... Ішлі ў казачных касьцюмах нязьлічоныя аркестры кадэтаў, вэтэранаў, войска, школаў, царкоўных прыходаў, рэлігійных таварыстваў, скаўтаў, каледжаў, паштовай і тэлефоннай сувязі, паліцыі, розных згуртаваньняў, нацыянальных групаў... Ня было аніводнай больш менш важнейшай установы ці арганізацыі, каб іхныя прадстаўнікі ці адмысловыя стэнды ня былі ў гэты дзень на 5-ай Авэню, навет ад цырку паважна сунуўся вялізарны надзьмуты слонь. Кажная група імкнулася паказаць штосьць арыгінальнае, характэрнае, асаблівае, кажная група вырозьнівалася ад суседніх сваімі ўбёрамі, аркестрамі: былі тут Індыйцы із перапушшам на галовах ды мокасынамі на нагах, Шкоты ў каляровых кароценькіх спаднічках із характэрнымі дудкавымі музычнымі інструмэнтамі, дзявочыя, хлапчукоўскія аркестры...

У ваччу мільгацела ад гэткай кандэнсацыі яскравых, радасных колераў ды арыгінальных дэсэняў і арнамэнтаў нацыянальных вопратак Беларусаў, Украінцаў, Славакаў, Чэхаў, Палякаў, Грэкаў, Баварцаў, Харватаў, Латышоў, Эстонцаў, Летувісаў, Кітайцаў, Расейцаў, Вугорцаў...

Гэта быў запраўды вольны, народны, сьвяточны, радасны паход-фэстываль, а панад усімі лёгкі веснавы ветрык калыхаў сьцягі й сьцягі, мора сьцягоў... На тварах, у вопратцы, свабодзе рухаў і кроку ня было й ценю тэй ведамай пячаткі прыгнобленасьці, пакоры й бязьмежнай нуды ды адчаю, што характэрызуюць «народныя» маніфэстацыі ў ваднэй шостай частцы сьвету ці краёх г. зв. «народнай дэмакрацыі».

Тут ніхто нікога ня змушаў, не падганяў, не запісваў, а з трыбуны ніхто не заклікаў да вайны із «ворагамі народу», да «бдительности» ці патраеньня натугаў на «вывазку гною із сьвінушнікаў» або «перавыкананьня нормаў»!

Сьпікер на трыбуне абвяшчаў толькі, якая група набліжаецца ды час ад часу, узнагароджваў разам із гасьцямі гучнымі воплескамі за ўдалае выкананьне якогась нумару ці добрае афармленьне групы.

Сёлетні парад ляяльнасьці, як сьцьвердзілі газэты, паказаў, што ў дзень 1-га травеня ня толькі 5-ая Авэню, але й Юніён Сквэр (дасюлешняе галоўнае месца зборышчаў камуністых) належаць да свабодных Амэрыканцаў, бо й на Юніён Сквэры ўвесь дзень адбываліся розныя выступленьні моладзі ды іншых арганізацыяў і толькі позна вечарам, каля 8-ай гадзіны камуністым удалося сабраць параўнальна нязначную колькасьць на свой крыклівы мітынг.

**А. Сьвіслацкі**

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ ЦЕРАЗ РАДЫЯСТАНЦЫЮ «ВЫЗВАЛЕНЬНЕ»

**У чацьвер 20. 5. 1954 г. распачынаюцца беларускія перадачы цераз радыястанцыю «Вызваленьне» ў Мюнхэне. Першая радыяперадача 20. 5. 1954 а гадз. 21.30—22 на кароткіх хвалях 31 і 49 паводля эўрапэйскага часу.**

**Пачынаючы ад 21. 5. 1954 беларускія радыяперадачы будуць адбывацца кажнага дня ў наступным часе:**

1) гадз. 0,30—1 на хвалі 49
2) гадз. 3,30—4 на хвалі 75
3) гадз. 6,30—7 на хвалі 49
4) гадз. 9,30—10 на хвалі 31
5) гадз. 12,30—13 на хвалі 31
6) гадз. 15,30—16 на хвалі 31
7) гадз. 19—19,30 на хвалі 31.
8) гадз. 21,30—22 на хвалі 31 і 49.

# Дзеяцца рэчы незразумелыя

### НА МАРГІНЭСЕ ПАЛІТЫКІ АМЭРЫКАНСКАГА КАМІТЭТУ ВЫЗВАЛЕНЬНЯ АД БАЛЬШАВІЗМУ

Ужо звыш трох год Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ад Бальшавізму вядзе намаганьні змантаваньня супольнага фронту эміграцыяў падсавецкіх народаў дзеля змаганьня з бальшавізмам. На гэтую акцыю былі ўжо выкінутыя мільёны даляраў, уложана шмат энэргіі й працы, а вынікаў дасюль ніякіх. Гэтае «супольнае змаганьне» з бальшавізмам так і не пачалося. Прычыны гэтага ведамыя. Амэрыканцы, мантуючы супольны фронт нерасейскіх народаў разам з Расейцамі, ня хочаць разглядаць гэтых дзьвюх групаў, як раўнапраўных і раўнавартасных партнэраў, але даюць выразную перавагу другім над першымі коштам першых. На Амэрыканскім Камітэце аж да апошняга часу мсьціцца хвальшывая канцэпцыя, што ў змаганьні з бальшавізмам трэба абапёрціся на Расейцах і, дзеля гэтага, падтрымаць іхныя вялікадзяржаўніцкія імпэрыялістычныя пляны пры ігнарацыі справядлівых нацыянальных імкненьняў нерасейскіх народаў, якія налічваюць больш палавіны насельніцтва Савецкага Саюзу. Гэта адна прычына, чаму дасюлешняя акцыя Амэрыканскага Камітэту не магла даць патрэбнага эфэкту, ня глядзячы на тое, што ейныя канчальныя інтэнцыі — зьнішчэньне бальшавізму, у прынцыпе, можна толькі прывітаць.

Але існуе і прычына другая. Амэрыканскі Камітэт, шукаючы партнэраў для супольнай антыбальшавіцкай акцыі, стараецца абапёрціся на як найбольш кваліфікаваных і аўтарытэтных арганізацыях як расейскіх, гэтак і нерасейскіх. Таксама такая канцэпцыя ў прынцыпе адзіна правільная, але, нажаль, калі ходзіць пра Амэрыканскі Камітэт, дык толькі ў прынцыпе, а не ў ягонай дасюлешняй практыцы.

Бо мала пусьціць туман у вочы і назваць нейкую арганізацыю дастаткова аўтарытэтнай і кваліфікаванай, калі ў запраўднасьці ёй далёка да гэтага. Ня могучы схіліць узапраўды рэпрэзэнтатыўных арганізацыяў нерасейскіх народаў прыняць адзінанедзялімаўскую пазыцыю расейскай эміграцыйнай рэакцыі, Амэрыканскі Камітэт быў гатоў абапёрціся на г. зв. «фэдэралістых», якія ў запраўднасьці былі ня чым іншым, як расейскімі дывэрсіямі, ня рэдка спэцыяльна дзеля гэтых мэтаў творанымі Расейцамі пад ціхую апрабату тых-жа Амэрыканцаў. Але станоўчая і згодная рэакцыя запраўдных нерасейскіх арганізацыяў, задзіночаных у Парыскім Блёку, прымусіла Амэрыканскі Камітэт пакінуць несалідныя спробы падмяніць гэтыя нерасейскія арганізацыі рознымі «фэдэралістычнымі» эрзацамі. Таму канцэпцыя абапёрціся на гэтых эрзацах, здаецца, ужо неактуальная.

Затое ўсьцяж пакутуе ўсё канцэпцыя шуканьня падобных эрзацаў у расейскім лягеры ды называць дэмакратычнымі тыя арганізацыі, якія ў практыцы сваёй дзейнасьці, а нярэдка і ў тэорыі зьяўляюцца запярэчаньнем усякага дэмакратызму. Калі дзьве больш прагрэсыўныя і палітычна больш разумныя расейскія арганізацыі — Ліга Б. Нікалаеўскага і СБОНР пайшлі на некаторыя кампрамісы на карысьць нерасейскіх арганізацыяў і згадзіліся прыступіць да супольнай зь нерасейцамі антыбальшавіцкай арганізацыі — МАКЦ-у, дык Амэрыканскі Камітэт ня вызнаў гэтых дзьвюх расейскіх арганізацыяў за дастаткова кваліфікаваныя і адмовіў МАКЦ-у свайго падтрыманьня. Затое арганізацыі, узначаленыя Мельгуновам і Керэнскім, што твораць г. зв. фактычна ўжо няіснуючы КЦАБ, як і салідарыстаўскі НТС, што далучыўся да КЦАБ-у пасьля ягонага развалу й фактычнай самаліквідацыі, зьяўляюцца для Амэрыканскага Камітэту дастаткова кваліфікаванымі, навет супэркваліфікаванымі, безь якіх Амэрыканскі Камітэт і не ўяўляе сабе супольнага антыбальшавіцкага фронту.

Калі ходзіць пра НТС, дык аб'ектыўна трэба прызнаць, што гэта масавая й найбольш актыўная расейская эміграцыйная арганізацыя. Але існуюць вельмі важныя мамэнты, якія яе дыскваліфікуюць, як партнэра для нерасейскіх арганізацыяў. Па першае, гэтая арганізацыя, што групуе ў сабе найбольш шавіністычныя элемэнты і абапіраецца на таталітарных прынцыпах, поўнасьцю запярэчвае нацыянальныя правы нерасейскіх народаў. Дык як тады можна шукаць нейкай супольнай плятформы зь ёю? Але гэта ня ўсё. Цэлы рад сьвежых фактаў паказаў, што НТС зьяўляецца моцна падмінаваны савецкім шпіянажам навет у ягоных кіраўнічых вярхох. Дык перад тым, як кваліфікаваць яго, як моцнага партнэра ў антыбальшавіцкім змаганьні, трэба было-б сьпярша прапусьціць праз камісію сэнатара Мэк Кэрты, як шчыра радзіць эміграцыйная прэса. Вялікая шпіёнска афэра Мюлера-Харунжага і, ня выключана, сьвежая справа іншага выдатнага дзеяча НТС Трухновіча, які, на думку ня толькі нерасейскіх эмігрантаў з пад Саветаў, але й некаторых паважных нямецкіх дзейнікаў, ня быў схоплены ў заходнім Бэрліне бальшавікамі, але перайшоў да іх дабравольна з важнымі дакумэнтамі НТС, як і іншыя, ня зусім ясныя, дачыненьні верхаводаў гэтае арганізацыі з бальшавіцкай агентурай і цяпер, і падчас апошняй вайны, павінны ўсіх ідэйных антыбальшавікоў у найлепшым выпадку моцна насьцярожыць і паставіць пакуль што ў рэзэрве да гэтай арганізацыі.

Але пакінем на баку НТС. Пакінем на баку і Керэнскага, аб якім мы ўжо часта пісалі, што ў антыбальшавіцкім змаганьні ён мог-бы адыйграць толькі ролю прыказачнага пятага кола ў возе.

Зоймемся сяньня Мельгуновам, як адным з найважнейшых, на думку Амэрыканскага Камітэту, партнэрам супольнага антыбальшавіцкага фронту, і як старшынёю сяньняшняга КЦАБ-у, да якога, апрача прадстаўніка заплянаванага МАКЦ-у, Аўгена Гегечкоры, і зьвярнуўся Амэрыканскі Камітэт з прапановай прыняць меры дзеля стварэньня заплянаванай апошнім часам гэтым Камітэтам г. зв. «Дзейнай Рады».

Хто-ж такі Мельгуноў? Ведамы расейскі палітычны антыімпэрыялістычны дзеяч, былы сябра Дзяржаўнай Думы ад Ленінграду й Кранштату, праф. Алексінскі на балонах газэты «Освобождение» выявіў аб ім вельмі сэнсацыйныя справы, якія дыскваліфікуюць Мельгунова ня толькі, як антыбальшавіка, ня толькі, як палітычнага дзеяча, але й як чалавека наагул. Пісаў аб гэтым праф. Алексінскі ўжо часта, але ў вапошнім 8 (31) нумары «Освобождения» за 1. 5. 1954 паставіў, як кажуць, кропку над «і». Дык аддаём слова праф. Алексінскаму:

«Ад самага свайго ўзьнікненьня КЦАБ ужо быў затруты прысутнасьцю ў ім — і ў дадатак на старшынскім становішчы! — сп. Мельгунова, на якім ляжыць **нязмытая** пляма выдачы ім ЧэКа ягоных таварышаў па нелегальнай антысавецкай арганізацыі («Тактычны Цэнтр», у Маскве, 1920 год). Працаваць зь ім маглі толькі людзі неасьведамленыя аб гэтым прадажніцтве або людзі поўнасьцю аб гэтым асьведамленыя, але зь нейкіх незразумелых для мяне (ды і для ўсякага чэснага чалавека) меркаваньняў, спэцыяльна закрыўшыя на гэта вочы. З гэтымі апошнімі гутарыць, зразумела, бескарысна. Што-ж датычыцца неасьведамленых, дык няхай яны прачытаюць абрыдлівае апавяданьне самога Мельгунова ў ягоным журнале «На чужой стороне» (том III, Прага, 1923 год).

«Падчас дапросаў, расказвае сп. Мельгуноў, я адчуваў, што хаджу па лязе. У васаблівасьці, адчуў я гэта, калі Агранаў (сьледчы ЧэКа) патрабаваў назваць прозьвішчы... Было вялікай памылкай з майго боку, што я пацьвердзіў удзел у Саюзе Адраджэньне тых асоб, удзел якіх быў устаноўлены на аснове паказаньняў (іншых)... Часамі ў гэтых паказаньнях фігуравалі неабазначаныя асобы і сьледзтва беспасьпяхова імкнулася дакладна ўстанавіць іх. Мімавольна(?), магчыма, я зьявіўся пасярэдным віноўнікам устанаўленьня аднаго... Быць можа, я памагаў разьясьненьню сьледа-

(Заканчэньне на 3-ай балоне)

# Выканайце Ваш абавязак

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

**тасьць у нашым эміграцыйным жыцьці.**

**4. Мы таксама просім усе нашыя арганізацыі й пэрсанальна ўсіх нашых прыхільнікаў правесьці на падпісныя лісты зборку ахвяраў на выдавецкі фонд «Бацькаўшчыны». Спэцыяльных падпісных лістоў для гэтага не рассылаем, бо гэта было-б лішняй валакітай і тратай часу, прапануючы прыгатаваць такія падпісныя лісты самім або запатрабаваць іх ад мясцовых арганізацыяў. З мэтаю кантролі ў газэце будзе пададзеная дакладная справаздача з такога збору.**

**5. Мы горача просім усе нашыя арганізацыі й паасобных грамадзян заактывізаваць прадажу беларускіх кніжак Выдавецтва «Бацькаўшчыны». Гэта дасьць нам магчымасьць ня перапыняць і не аслабляць далейшага выдаваньня найлепшых пэрлаў нашае прыгожае літаратуры, гэтак патрэбных і карысных для нашага эміграцыйнага чытача.**

**Вось тыя мерапрыемствы, якія патрэбна было-б безадкладна правесьці, каб забясьпечыць далейшы лёс «Бацькаўшчыны» і ўсяго нашага выдавецтва. Правесьці іх зусім лёгка й проста. Трэба толькі трохі ахвоты, настойлівасьці й добрае волі, а вынікі будуць вялікія й прыгожыя. Хочам тады верыць, што нашае грамадзянства, гэтак чулае на ўсякія нашыя нацыянальныя патрэбы й ахвярнае ў выпадку неабходнасьці, праявіць і тут гэтую ахвоту й належна заманіфэстуе сваю добрую волю.**

**Дык выканайце Ваш скромны нацыянальны абавязак!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

# Камуністыя ў наступе

(Заканчэньне з 1-ай балоны)

штам вялікіх уступак Захаду. На Захадзе што раз болей шырыцца пагляд, што паколькі Дыен-Біен-Пгу стаўся Сталінградам Далёкага Ўсходу, патолькі Жэнэва можа быць далёкаўсходнім Мюнхэнам.

### А МОЛАТАЎ ТРЫУМФУЕ Й ЗЖЫНАЕ ПЛАДЫ

Такая сытуацыя аказалася нязвычайна выгаднай для Молатава й ягоных азіяцкіх сатэлітаў, дык і пастанавіў ён з цэлым нахабствам, уласьцівым толькі Саветам, яе выкарыстаць. Перадусім ён выступіў у ролі фанатычнага абаронька нацыянальна-вызвольных імкненьняў азіяцкіх народаў, «прыгнечаных» і «экспляатаваных» каляніяльнымі дзяржавамі Захаду. Само сабой зразумела, што гэтая ягоная роля, пасьля мілітарнай перамогі камуністых, знаходзіць сярод народаў Азіі поўнае падтрыманьне й выклікае вялікія сымпатыі. На Захадзе паважна лічацца з магчымасьцю, што цяпер, пасьля ўпадку Дыен-Біен-Пгу, пачнецца масавы пераход Ветнамцаў, зьняверaных у сілу й станоўчасьць Захаду, на бок камуністых Го-Чы-Міна.

З другога боку Молатаў, выкарыстоўваючы заіснаваўшыя розьніцы паглядаў у заходнім лягеры ў справе збройнай інтэрвэнцыі ў Індакітаі, намагаецца ўсякімі спосабамі гэтыя разыходжаньні паглыбіць і ізаляваць Амэрыку ад эўрапэйскіх вялікадзяржаваў. З гэтаю мэтаю ён умела іграе на пацыфістычных і дэфэтыстычных настроях у Вялікабрытаніі й Францыі, не шкадуе дэлегацыям гэтых дзяржаваў прыманлівых абяцанак, а ўсё сваё астрыё накіроўвае супраць Амэрыкі, звальваючы на яе галоўную віну за падзеі ў Азіі і за сусьветнае напружаньне, якое можа справаваць гэтак непапулярную на Захадзе Эўропы вайну.

Наагул Молатаў чуецца ў Жэнэве вельмі добра й трымаецца самаўпэўнена. Ягоныя выступленьні вызначаюцца агрэсыўным тонам, зь якім ён ня выступаў ад даўжэйшага часу. Ягоныя праекты разьвязаньня індакітайскай праблемы зьяўляюцца максімальныя і для заходніх дзяржаваў немагчымыя навет для дыскусіі.

### ІНДАКІТАЙСКІЯ ПРАЕКТЫ НА ЖЭНЭЎСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Першы праект для разьвязаньня індакітайскай праблемы быў зложаны францускім міністрам замежных справаў Бідо 8 травеня, дзень пасьля ўпадку Дыен-Біен-Пгу. Гэты плян складаўся з чатырох наступных пунктаў:

**1. Як камуністычныя, гэтак і антыкамуністычныя войскі, што ваююць у Ветнаме, пасьля падпісаньня перамір'я павінны быць адведзеныя ў спэцыяльныя зоны, вызначаныя Жэнэўскай канфэрэнцыяй на прапазыцыю галоўнакамандуючых абодвых ваюючых бакоў.**

**2. Ляёс і Камбоджа павінны быць ачышчаныя ад рэгулярных і нерэгулярных камуністычных аддзелаў Ветміну, якія даканалі інвазіі часьці тэрыторыі гэтых некамуністычных дзяржаваў Індакітаю.**

**3. Ува ўсіх трох дзяржавах Індакітаю (Ветмін, Ляёс і Камбоджа) павінны быць раззброеныя ўсе групы, што не належаць да арміі, безакладна зволненыя ваенныя й цывільныя палонныя і паклікаая міжнародная камісія дзеля** дапільнаваньня **ажыцьцяўленьня ўмоваў пераміру'я.**

**4. Дагавор аб пераміры'і павінен быць гарантаваны дзевяцю дзяржавамі, удзельнікамі індакітайскай канфэрэнцыі ў Жэнэве.**

Францускі праект мае выразна часовы й пераходны характар, які, як бачым, не прадугледжвае навет справы свабодных выбараў, якія канчальна маглі-б разьвязаць індакітайскую праблему. Бідо падчыркнуў у сваей прамове, што ў першай лініі ходзіць яму аб заканчэньне вайны. Затое палітычныя праблемы, у тым ліку й справа выбараў, павінны быць паступова разьвязваныя пасьля перамір'я.

Ня гледзячы на тое, што францускі плян, які адкладаў на пазьней усе пытаньні палітычныя й справу выбараў, насіў абмежаваны й кампрамісовы характар, камуністыя яго поўнасьцю адкінулі. Міністар замежных справаў Ветміну Пам-Бан-Донг прадставіў 10 травеня свой собскі плян, зложаны з васьмі пунктаў:

**1. Перамір'е ў Індакітаі ўключна з новым падзелам акупацыйных зонаў, забарона прывозу войска й аружжа ў Індакітай і кантроля пераміру'я мяшанай камісіяй.**

**2. Вымена ваеннапалонных.**

**3. Вывад усіх замежных збройных сілаў.**

**4. Вызнаньне камуністычных урадаў Ветнаму, Ляёсу й Камбоджы.**

**5. Гатоўнасьць камуністычнага Ветміну прыступіць да Францускай Вуніі.**

**6. Забавязаньне Ветміну рэспэктаваць дагэтуль існуючыя францускія культурныя й гаспадарскія інтарэсы ў Індакітаі.**

**7. Ніякіх рэпрэсіяў супраць калябарантаў.**

**8. Вольныя выбары на ўзор запрапанаваных камуністымі «вольных» выбараў для Нямеччыны й Карэі.**

Як бачым, камуністычны плян зьяўляецца максімальным і ідзе яшчэ далей, чымся іхныя пляны для Карэі й Нямеччыны. Апрача іншых камуністычных дамаганьняў, ідэнтычных з дамаганьнямі для Нямеччыны й Карэі, у дачыненьні да Індакітаю яны дамагаюцца яшчэ вызнаньня камуністычных урадаў Ляёсу й Камбоджы, якія ў запраўднасьці ня існуюць, але, пэўне-ж, у выпадку патрэбы могуць быць камуністымі сфабрыкаваныя.

У дадатак да гэтых двух праектаў, дэлегацыя Ветнаму выступіла 12 травеня із собскім плянам. **Апрача дамаганьняў міжнароднага нагляду над пераміру'ем і вольных выбараў пад кантроляй Задзіночаных Нацыяў, ветнамскі плян дамагаецца яшчэ вызнаньня камуністымі ўраду Бао Даі.**

Праект заходніх дзяржаваў у справе Індакітаю і праект камуністычны на столькі між сабой розьняцца, што яны ўзаемна сябе поўнасьцю выключаюць. Таму на базе гэтых плянаў ня можа быць дасягнуты навет ніякі кампраміс. Індакітайская канфэрэнцыя зайшла такім чынам у сьляпы завулак. Ідэн і Бідо высоўваюць розныя папраўкі да сваіх плянаў у надзеі, што ўдасца мо знайсьці нейкую новую форму для дыскусіі з камуністымі, а камуністычныя дэлегаты на чале з Молатавам, шырака выкарыстоўваючы сваю перавагу, дабравольна дадзеную із Захадам, трыумфуюць і зжынаюць плады.

Гэткі дасюлешні білянс індакітайскай канфэрэнцыі ў Жэнэве.

Язэп Каранеўскі

Р. СКЛЮТ 9)

# Званар Адраджэньня

### (ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)

(Працяг)

Але ў цэнтры ўвагі выдавецкае дзейнасьці Ластоўскага, дзеля абставінаў і вымогаў часу, мусіла стаць ня выданьне й перавыданьне мастацкае літаратуры, а пільная справа выдавецтва школьных падручнікаў, якіх горка патрабавала нашае школьніцтва, забароненае за царом і нарэшце дазволенае, ды навет успамаганае, за нямецкай акупацыяй, якая адразу-ж расчыніла дарогу да ягонага бурнага росьцьвіту. Пры гэтым, у моц усё тых-жа законаў адраджэнства, Ластоўскі мусіў не абмежвацца тут роляю аднаго выдаўцы, а стацца таксама й аўтарам выдаваных ім падручнікаў — гэтак зьявілася, наверх на ўсе папярэднія, яшчэ адно ягонае «амплюа» — амплюа пэдагагічнага аўтарства, і пры тым, як пабачым, у розных галінах. Праўда, уваходзіць у гэтае амплюа Ластоўскі пачаў быў яшчэ перад самай вайною, калі паўсталае тады «Беларускае Выдавецкае Таварыства» ў Вільні выступіла з шырокімі плянамі выдавецтва, у тым ліку, і школьных падручнікаў. Для гэнага выдавецтва Ластоўскі напісаў «Першую чытанку — кніжыцу для беларускіх дзетак дзеля навукі чытаньня», якая ўжо й пачала нат друкавацца, але ў сьвет здолела выйсьці адно па находзе ў Вільню Немцаў, у 1915 г. (гэта й была першая беларуская кніжка, што выйшла за іхнаю акупацыяю).

«Першая чытанка» Ластоўскага («В. Ласт.» — гэтак быў абазначаны на ёй аўтар) была ўжо трэйцяй спробай беларускай школьнай чытанкі (пасьля «Першага чытаньня для дзетак-Беларусаў» Цёткі, 1906 г., і «Другога чытаньня» Я. Коласа, 1909-1910 г.). Ад сваіх папярэднікаў яна вызначалася ня толькі сваім памерам (64 бал. супраць аднааркушовага Цётчынага «Першага чытаньня»), але й умела праведзеным нацыянальна-ўзгадавальным мамэнтам, разгорнутым на груньце гістарычнага матарыялу — тутака, у разьдзеле артыкулікаў (першы разьдзел «Чытанкі» станавіў лемантар) Ластоўскі ўпяршыню падаў кароткія апавяданьні й вершы (найбольш собскага аўтарства) пра нашую мінуўшчыню й ейных найбольшых гэрояў (Усяслава Чарадзея, Вітаўта Вялікага й інш). — мамэнт гэты ў выданьнях такога тыпу ня толькі датуль зусім не закранаўся, але, нажаль, і пасьлей, аж дасюль, вельмі й вельмі мала акцэнтаваўся, калі зусім не ігнараваўся.

Сьледам за «Першаю чытанкаю» Ластоўскі выпушчае чытанкі далейшых ступеняў — «Незабудка», «Родныя зярняты» (1916 г.) і «Сейбіт» (1918 г.), цалкам задавольваючы гэткім парадкам патрэбу пачатнае школы ў вадным з найаснаўнейшых для яе падручнікаў — чытанцы. Чытанкі Ластоўскага борзда разышліся і пасьля ня перавыдаваліся, з пэдагагічнага гледзішча яны ніколі ня рэцэнзаваліся, але іхная нацыянальна-ўзгадавальная вартасьць бясспрэчная і йдзець у тым-жа кірунку, што й першае зь іх — «Першае чытанкі»; трэба дакінуць яшчэ й тое, што аўтары наступных нашых школьных чытанак (Я. Лёсік — «Наша Крыніца», Л. Гарэцкая — «Родны Край» і г. д.) аберуч чэрпалі з падручнікаў гэтых як матар'ялы собскага аўтарства Ластоўскага, гэтак і падабраныя ды апрацаваныя, а часам перакладзеныя ім зь іншых аўтараў. Вянцом чытанак Ластоўскага сталіся выданыя ім у канцы 1918 г. «Выпісы зь беларускае літаратуры», частка I — першая ў нас паважная гістарычна-літаратурная хрыстаматыя (частка I яе абыймала народнае творства і старую літаратуру), зь якое таксама карысталіся аўтары наступных падручнікаў гэтага тыпу (М. Гарэцкі ў сваёй «Хрыстаматыі» і ў «Выпісах зь беларускае літаратуры», ч. I, складзеных супольна з Ул. Дзяржынскім і П. Караваем).

Адылі, Ластоўскі не абмежыўся ўкладаньнем і выданьнем школьных чытанак, — адначасна ён парупіўся і аб забясьпечаньні пачатнае школы другім найпатрэбнейшым ёй падручнікам — арытмэтычным задачнікам. Праўда, тут ужо ён не падняўся да собскага аўтарства, а толькі пераклаў папулярны тымі часамі задачнік Ч. Юрэвіча (дарэчы, родам Беларуса, што мела свой адбітак і на характары ягонага падручніка, больш блізкога да абставінаў нашага краю й псыхалёгіі нашых дзяцей); пераклад гэты, аднак, будучы першым у сваім родзе ў нас (датуль ня было аніводнага падобнага падручніка ў нашай мове), патрабаваў апрацаваньня адпаведнай тэрміналёгіі й фразэалёгіі, што й было выканана гэтак удала, што асноўныя з уведзеных тут Ластоўскім тэрмінаў (як, прыкладам, адымнік, множнік, дзеліва, дзельнік, дзель і пад.) захаваліся ў нас у ўжываньні аж дагэтуль (першая частка задачніка выйшла ў 1916 г., апошняя — у 1918 г., пасьля яны колькі разоў перавыдаваліся).

Пасьля гэтага Ластоўскі спрабаваў апрацоўваць і іншыя школьныя падручнікі зь іншых галінаў веды, і ўжо навет зусім самастойна, ня перакладаючы; гэтак быў выдадзены ім элемэнтарны падручнік батанікі — «Расьціны» (1918 г.), дзе таксама ўпяршыню была апрацаваная ў сваёй аснове батанічная тэрміналёгія. Нарэшце, паруміўся ён і аб выданьні рэлігійных падручнікаў для пачатнае школы, як для адзінаверных яму вучняў каталікоў, гэтак і для праваслаўных. Першыя праваслаўныя малітвы ў нашай мове былі пададзеныя ўжо ў «Першай чытанцы» 1915 г.; у 1918 г. былі выдадзеныя перакладныя «Першыя малітвы» Б. Раманама й «Аб'ясьненьне малітваў» Г. Чальцова; з каталіцкіх падручнікаў была перавыдадзеная «Гісторыя кароткая сьвятая» Шустара (першае выданьне зьявілася яшчэ да вайны) і «Кароткі катэхізм» кс. Філяхоўскага. Нарэшце, у стылі рэлігійнага падручніка Ластоўскі напісаў сваеасаблівы катэхізм нацыянальнае сьведамасьці — «Што трэба ведаць кажнаму Беларусу». Апрацаваная ў папулярнай катэхізычнай форме пытаньняў і адказаў, сьціслая, ясная і разам із тым вычарпальная ў сваім выкладзе, рэч гэтая адыграла вялікую ролю ўжо ня так для школы, як для самых шырокіх пластоў грамадзтва. Выдрукаваная перш у «Гомане», выдадзеная асобна ў Вільні (1918 г.), перадрукаваная пасьля ў менскай «Вольнай Беларусі» і зноў асобна выдадзеная ў Менску (у тым самым 1918 г.), перавыдадзеная ў часе другой нямецкай акупацыі ў 1940-ых гадох (у перапрацаваньні Я. Найдзюка, у Менску і ў Бэрліне), яна ці аднаго Беларуса ўсьведаміла нацыянальна. Ёсьць усе асновы думаць, што й наперадзе яшчэ ці адно выданьне гэтага надзвычай удалага нацыянальнага катэхізму.

У канцы свае, такое ажыўленае й плённае аўтарскае й выдавецкае дзейнасьці ў 1918 г. Ластоўскі пачаў быў выданьне літаратурна-мастацкага й грамадзкага месячніка «Крывічанін»; аднак абставіны часу дазволілі выдаць усяго № I за кастрычнік 1918 г., і толькі ў 1923 г. удалося паставіць больш сталае выданьне часапісу таго-ж тыпу і пад тым-жа блізу назовам «Крывіч», пра які будзе большая гаворка далей у сваім месцы.

(Далей будзе)

# Да праблемы Крыму

У сувязі з выдзяленьнем Крыму із складу РСФСР і прылучэньнем яго да Ўкраінскай ССР былы прэзыдэнт Крымскага Кангрэсу, былы міністар вайны й замежных справаў, а таксама ўпаўнамочаны дэлегат Крымскага Парляманту, сп. Кафэр Сэйдагмэт Кірымэр, які знаходзіцца на эміграцыі, выдаў спэцыяльнае асьветчаньне і зьвярнуўся да нас з просьбаю надрукаваць яго. Ахвотна выконваючы ягоную просьбу, ніжэй друкуем успомненае асьветчаньне, уважаючы, што й для беларускага чытача будзе яно цікавым, як важны дакумэнт, які ілюструе расейскі й бальшавіцкі зьдзек над волялюбным крымскім народам.

✲

«Прэзыдыюм Вярхоўнага Савету СССР зацьвердзіў сваім дэкрэтам з 27. 2. 1954 г. пастановы, прынятыя ўрадам РСФСР і Ўкраінскай ССР аб выдзяленьні Крыму із складу РСФСР і прылучэньні яго да Ўкраінскай ССР, падаючы за аснову, што Крым тэрытарыяльна, эканамічна і культурна зьяўляецца зьвязаны з Украінай.

Гэтая пастанова зьмяшчае два прынцыпы: 1. аддзяленьне Крыму ад РСФСР; 2. прылучэньне Крыму да Ўкраінскай ССР.

З гэтае нагоды мы хацелі-б выясьніць наступныя пункты:

1. Крым, цюрская зямля ад сотняў год із сваей сувэрэннасьцю і самабытнымі асаблівасьцямі, стаўся ахвярай расейскай інвазіі ў 1783 г. бязь ніякіх гістарычных правоў і ў супярэчнасьці з § 3. дагавору «Kücük Kaynarca», у якім Кацярына II загарантавала пад прысягай тэрытарыяльную інтэгральнасьць Крыму. Ня гледзячы на факт, што Кацярына II загарантавала дэклярацыяй з 8 красавіка 1783 г., што яна і ейныя наступнікі будуць рэспэктаваць рэлігію, маемасьць і жыцьцё цюрскага насельніцтва Крыму, агрэсыўная Расея намагалася ад таго часу зьнішчыць дасягненьні культуры цюрскага народу і заграбіць ды канфіскаваць іхныя землі. У гэтых няспрыяльных умовах сотні тысячаў цюрскага народу Крыму ад часу да часу пакідалі собскі край. Цюрскі народ Крыму, які ня прызнаў расейскай інвазіі і, ня гледзячы на эканамічны і адміністрацыйны ціск і вынішчэньне, захаваў сваё нацыянальнае жыцьцё, склікаў свой кангрэс пасьля рэвалюцыі 1917 г. Гэты кангрэс, сябры якога былі выбраныя згодна з праўдзіва дэмакратычнымі мэтадамі, прыняў канстытуцыю, якая базавалася на дэмакратызьме і на прынцыпах самавызначэньня. Гэтая канстытуцыя была прынятая й абвешчаная 26 лістапада 1917 г.

Камуністычная Расея, што імкнулася да тых самых імпэрыялістычных мэтаў, у кастрычніку 1920 году акупавала Крым. Наяўнасьць запраўднага факту, што Крым зьяўляецца цюрскім краем, змусіў камуністых установіць аўтаномную крымскую рэспубліку і далучыць яе да РСФСР.

Камуністыя, уважаючы, што адміністрацыйны й эканамічны ціск, дэпартацыя й русыфікацыя царскага рэжыму былі за лагодныя, выклікалі ў Крыме голад, масава дэпартавалі народ і прадаўжалі вынішчаць крымскіх Цюркаў. Чырвоная Расея пасьля паўторнае акупацыі Крыму пад канец другой сусьветнай вайны дэпартавала ўсіх крымскіх Цюркаў у ваддаленыя ад іхнага краю землі пад прэтэкстам, што яны супрацоўнічалі зь гітлераўскай Нямеччынай. Гэта было беспадстаўнае абвінавачаньне, бо Немцы ня вызналі ані палітычных, ані эканамічных, ані рэлігійных правоў крымскіх Цюркаў.

Аўтаномная Крыская ССР была зьлiквідаваная дэкрэтам з 25. 6. 1946 г.

Цяпер Расея сваей апошняй пастановай у справе выдзяленьня Крыму з складу РСФСР згадзілася й вызнала легальнасьць і праўдзівасьць тэзаў, якімі кіраваліся крымскія Цюркі ад раньніх часоў, што між Крымам і Расеяй няма ніякай сувязі.

2. Прылучэньне Крыму да Ўкраіны. На падставе §§ 13-15 Крымскай Канстытуцыі, пастановы аб лёсе Крыму, калі яны робленыя ня ўпаўнамочанымі прадстаўнікамі Крымскага Парляманту, ня могуць быць законныя.

Як упаўнамочаны дэлегат нашага парляманту, які даў мне гэтае ўпаўнамочаньне дакумэнтам № 6 з 10. 2. 1919 г., з мэтаю бараніць правы й інтэгральнасьць крымскіх Цюркаў, і ўшаноўваючы жаданьні крымскіх Цюркаў, якія цяпер знаходзяцца за мяжой і працуюць для вызваленьня свайго краю, я асьвятчаю, што пастанова прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР зьяўляецца бясправўнай пастановай.

Крым творыць тэрытарыяльнае адзінства, Крым зьяўляецца эканамічнай цэласьцю, Крым мае цюрскую культуру і ня мае ніякай культурнай сувязі з Украінай.

Выходзячы з выжэй прыведзеных пунктаў, пастанова аб далучэньні Крыму да Ўкраіны зьяўляецца супярэчнай з прынцыпамі Карты Задзіночаных Нацыяў і Дэклярацыі аб правох чалавека.

Гэтая пастанова аб далучэньні ня прынясе сувэрэннасьці для ніводнай дзяржавы, і крымскія Цюркі будуць прадаўжаць змаганьне за гістарычныя правы на незалежнасьць свайго краю. Веручы, што ня гледзячы на тэрор і дэпартацыі паняволеныя народы імпэрыялістычнай чырвонай Расеяй пэўнага дня вызваляцца, мы адкідаем і пратэстуем супраць пастановы аб прылучэньні і зьвяртаемся з нашым пратэстам да Задзіночаных Нацыяў і цэлага сьвету.

**23 сакавіка 1954.**

**Кафэр Сэйдагмэт Кірымэр**
**былы прэзыдэнт Крымскага Кангрэсу, былы міністар вайны і замежных справаў і ўпаўнамочаны дэлегат Крымскага Парляманту».**

✶

Цікава таксама адцеміць, што і Ўкраінская Нацыянальная Рада на нядаўна адбытай у Мюнхэне сваей трэйцяй сэсіі прыняла ў гэтай справе дэклярацыю, у якой, між іншага, гаворыцца:

«Украінская Нацыянальная Рада заяўляе: па першае, пастанаўляць аб лёсе Крыму павінна не Масква, а толькі само насельніцтва Крыму. Толькі свабоднае выяўленьне волі карэннага насельніцтва гэтага краю, якое там знаходзілася да прымусовых перасяленьняў, вызначыць лёс і забясьпечыць лепшую будучыню Крыму. Па другое, крывадушнасьць Крэмля праяўляецца якраз у тым, што маскоўскі ўрад, вырашаючы справу Крыму, навет у думках ня меў жаданьня вярнуць на бацькаўшчыну прымусова выселеную з Крыму часьць яго насельніцтва — Татар».

Як бачым, гэтае палітычна разумнае й справядлівае становішча УНРады зусім пакрываецца із становішчам прадстаўніка крымскіх Цюркаў сп. Кірымэра.

# Дзеяцца рэчы незразумелыя

(Заканчэньне з 2-ой балоны)

вацельскіх загадак... Пасярэдна(?) з маей віны быў прыцягнуты к суду нявінаваты зусім чалавек».

«Калі я пераглядаю мае паказаньні, я не адчуваю вялікага задаваленьня — піша сп. Мельгуноў. — Быць можа, грамадзкая чэсьць патрабавала-б іншага захоўваньня... Рэвалюцыйная традыцыя патрабавала некаторага гэраізму, а ў душы ня было патрэбнага для гэтага гэраізму патасу».

Сп. Мельгуноў ня можа спаслацца ні на якія «зьмякчальныя акалічнасьці» для апраўданьня дакананага ім прадажніцтва. Ён гаворыць, што ніякім фізычным мукам яго на дапросах не паддавалі, а паддавалі толькі «псыхалягічнаму» ўзьдзейваньню, якога ён ня вытрымаў з прычыны адсутнасьці ў ягонай жалюгоднай душы якога-небудзь «гэраізму» і «патасу», што ня перашкаджае яму цяпер, ад імя КЦАБ-у, заклікаць да «ахвярнасьці» і «гэраізму» палітычную эміграцыю, да якой ён сам дзеля гэтага не належыць. Ды якія наагул «зьмякчальныя акалічнасьці» можна знайсьці для прадажніцтва?..

Каб як-небудзь і перад кім-небудзь апраўдацца, сп. Мельгуноў жалабна спасылаецца на тое, што ён, бачыце, «аказаўся праставатым» і ня мог зразумець усіх злых задумаў чэкістага, што дапрашваў яго. Але старая расейская прыказка кажа: «Іншая прастата горш зладзейства». Ёсьць «сьвятая прастата» людзей бясшкодных і ня здольных зрабіць зла нікому, апрача самых сябе. У сп. Мельгунова «прастата» зусім іншая, як паказваюць яго собскія, — немагчыма брыдкія словы: «Калі пакінуць на баку матывы агульныя, — піша ён — то кажны мае права ратаваць сябе на свой манер».

Вось ён і «ратаваў сябе на свой манер», выдаючы ЧэКа сваіх прыяцеляў і таварышаў па арганізацыі, не астанаўліваючыся навет перад даносам на «нявінаватага».

Старая лгуня і савецкая прапагандыстка Кускова, баронячы Мельгунова, дайшла ў сваей ілжы да цьверджаньня, што ніхто з удзельнікаў Маскоўскага «Тактычнага Цэнтру» ня быў пакараны. У гэтай справе былі расстрэленыя Шчэпкін, браты Астравы, сужэнства Альфэравы, бацька і сын Агароднікавы... Патрасаючая падробнасьць: Агароднікавы выйшлі на расстрэл з камэры, дзе яны сядзелі разам зь Мельгуновам, і не падазравалі ў ім прадажніка!.. Мой надзвычайны таварыш з Думы, дэп. Воўк-Карачэўскі зьгінуў у турме. Рад іншых, абвінавачаных у справе «Тактычнага Цэнтру» былі прысуджаныя на расстрэл, а тыя, што былі ўжо заграніцай, абвешчаны «ворагамі народу», г. зн. таксама прысуджаныя на сьмяротную кару.

А Мельгуноў? Ён быў прысуджаны на расстрэл. Але гэты прысуд быў фікцыйны, і суд, бяручы пад увагу «раскаяньне» падсуднага (ён-жа прадажнік іншых), замяніў яму безадкладна расстрэл дзесяцігоднім турэмным зьняволеньнем.

Але й гэты другі прысуд быў таксама фікцыйны і замест турэмнага зьняволеньня Мельгуноў («ратаваўшы сябе на свой манер») церазь некалькі месяцаў быў «выпушчаны» Дзяржынскім заграніцу, куды ён выехаў з савецкім пашпартам, не бяз грошаў і навет вывяз з сабой розныя «гістарычныя дакумэнты».

Першы час свайго прабываньня заграніцай прадажнік разумеў сваё палажэньне і паўстрымоўваўся ад умешваньня ў актыўнае палітычнае жыцьцё эміграцыі. Але ў 1927 годзе, думаючы, што справа «Тактычнага Цэнтру» і імёны чэсных людзей, расстрэленых у гэтай справе, ужо забытыя, ён захацеў прыняць у Парыжы ўдзел у «ўшанаваньні памяці ахвяраў бальшавіцкага тэрору» (сярод якіх ёсьць і ахвяры ягонага прадажніцтва). Яго сьцёбнулі ў лістку, дзе было паказана, што не яму класьці вянок на магілы Шчэпкіна і Астравых. Яму прыйшлося ўзноў адмовіцца ад усякіх палітычных выступленьняў і заняцца кураводзтвам, пад Парыжам. Але цераз чэцьверць стагодзьдзя, разьлічваючы на тое, што ў людзей «памяць кароткая» і што юрыдычная і маральная «даўнасьць» існуе для прадажнікаў, і карыстаючыся палітычнай суматохай, якая запанавала ў эміграцыі пасьля другой сусьветнай вайны, ён пачаў узноў упаўзаць у нашае эміграцыйнае асяродзьдзе і, дзякуючы неасьведамленасьці адных і нярашлівасьці другіх, дапоўз да старшынскага крэсла ў КЦАБ-е, дзе ўжо самая прысутнасьць яго назаўсёды атруціла палітычную й маральную атмасфэру гэтай арганізацыі.

У арганізацыі, дзе старшынстваваць можа прадажнік, усё магчымае: і вадэвіль зь пераадзяваньнем якіхсьці «нацыяналаў» у гістарычна-расейскіх патрыётаў, і стварэньне фікцыйных «нацыянальных» груп, і праступнае злоўжываньне чужымі подпісамі, і сеяньне варожасьці між расейскімі й нерасейскімі эміграцыямі, і наагул усё, што рабілася й робіцца ў КЦАБ-е і што служыць толькі на карысьць савецкай дыктатуры.»

Дык вось хто ўзапраўднасьці «антыбальшавік» Мельгуноў.

Ня верыць праф. Алексінскаму ніяк нельга, тым больш, што ён ня толькі гаворыць аб тым, што сам ведае, але й прыводзіць вызнаньні самога Мельгунова, зробленыя ім у 1923 годзе. Пры гэтым, праф. Алексінскі гэтыя абвінавачаньні паўтарае амаль у кажным нумары «Освобождения» ад году часу, а Мельгуноў, на колькі нам ведама, ні разу ім не запярэчыў. Абвінавачаньні гэтыя на столькі цяжкія й настолькі кампрамітуючыя й палітычна й маральна, што, калі-б даказаць ня толькі іхную непраўдзівасьць, але навет неабаснаванасьць, дык праф. Алексінскі ўжо даўно павінен быў-бы апынуцца за кратамі. Тымчасам гэтак ня сталася.

Дастаткова паінфармаваны аб гэтай нясслаўнай мінуўшчыні Мельгунова й Амэрыканскі Камітэт. Але гэта яму зусім ня перашкаджае ўважаць і да сяньня яго за аднаго з найбольш кваліфікаваных і аўтарытэтных расейскіх партнэраў для супрацоўніцтва зь нерасейцамі ў іхным супольным змаганьні з бальшавізмам. Астаецца толькі запытаць: як сабе прадстаўляе Амэрыканскі Камітэт змаганьне з бальшавізмам, за каго мае арганізацыі нерасейскіх народаў і за каго таксама самога сябе? Узапраўды, дзеяцца рэчы незразумелыя!

**Алесь Крыга**

## ПАЧАТНЫ КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У Нью Ёрку, дзе найболей новае беларускае эміграцыі, няма дагэтуль нічагусенькі, што дапаўняла-б беларускім дзецям навуку, атрымліваную ў амэрыканскай школе. Ані беларускія арганізацыі, ані бацькі, ані вучыцялі пра гэта ня руплцца. Дзеці забываюцца сваё; яны ўжо добра ўмеюць паангельску, але ўжо вельмі блага гавораць пабеларуску, а ёсьць і такія, што зусім пасвойму гаварыць забыліся. Калі так яшчэ патрывае, дык дзеці стануцца ня нашымі. Я найменей маю магчымасьці займацца вучэньнем дзяцей або маладзежы. Але што зробіш?! Каб хоць крыху скрануць зь месца справу і парушыць сумленьне іншых, я ад 8 мая сёлета вяду пачатны курс беларусаведы. Вучу гаварыць пабеларуску, чытаць, пісаць, беларускае гісторыі й краяведы. Вучэньне індывідуальнае. Навука на курсе бывае кажнае сыботы а 3-яй гадзіне ў маёй гасподзе (адрыс: 6, Vandervoort Place, Brooklyn, ехаць падземкаю да Morgan Avenue станцыі). На курс прыймаю хлапцоў і дзяўчат ад 12 да 18 год. Навука дармовая.

**Я. Станкевіч**

## Лекцыя аб Беларусі для гішпанскіх студэнтаў

Дня 11-га травеня сёлета на філязафічным факультэце Мадрыдзкага ўнівэрсытэту, на катэдры Гісторыі, беларускі студэнт гэтага факультэту Віктар Сенкевіч прачытаў рэфэрат аб Беларусі.

Прэлегент пачаў ад агульных геаграфічных і дэмаграфічных дадзеных, наясьняючы адначасна справу нашага нацыянальнага назову. Перайшоўшы да гісторыі, ён затрымаўся над галаўнейшымі яе мамэнтамі, зьвяртаючы асаблівую ўвагу на пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага, а таксама на пэрыяд адраджэньня і сучаснае змаганьне беларускага народу за сваю незалежнасьць. Наступным пунктам была беларуская культура. У кароткіх, але зьмястоўных словах прэлегент падаў характарыстыку й разьвіцьцё беларускае літаратуры, скульптуры, малярства, гравюры, архітэктуры й музыкі, падкрэсьліваючы пры гэтым асаблівую красу й багацьце беларускае народнае творчасьці. Як прыклад, былі задэманстраваныя некалькі рэлігійных і народных беларускіх песьняў з грамафонных плітак.

Лекцыю слухала каля 180 асобаў. Яна карысталася асаблівым пасьпехам і выклікала вялікае зацікаўленьне сярод студэнцкай моладзі. Прафэсар Мануэль Фэррандіс, якому заўдзячваецца арганізацыя гэтае лекцыі, так як ён адступіў ёй гадзіну сваіх выкладаў, зрабіў у канцы вельмі прыхільны камэнтар.

Дык нічога не астаецца, як толькі гратуляваць майго сябру ды шчыра жадаць яму далейшых посьпехаў у працы.

**Я. С.**

**ВЛАСТ (ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ)** 9)

# Выбраныя творы

**ЛЯБІРЫНТЫ**

**(Працяг)**

**IV**

Зачараваны веліччу абразоў, разьвінутых Іванам Іванавічам, я спытаў у яго:

— Чаму-ж усё гэта заняпала, чаму забыта?

І Іван Іванавіч сказаў:

— Гэрадот апавядае, што паўночныя краіны Эўропы былі найлюднейшымі пасьля Індыі. Паўночныя народы, якіх звалі Гіпэрбарэйцамі, займаліся лавецтвам, скацежніцтвам і ратайствам. Зналі рамёствы і асабліва любаваліся ў пазнаньні прыроды, а дзеля гэтага былі носьбітамі высокае веды. Зь берагоў Гэрадотаўскага мора, цяперашняга Палескага краю, паходзіў вялікі індускі рэфарматар — Рама. Ален гіпэрборэец вывеў з поўначы калёнію вучоных, якія сталіся ў Грэцыі кастай сьвятароў і аснавапаложнікамі чэсьці Апалёна і Дыяны ў Дэлёсе. З поўначы, з славянска-гецкае зямлі прыбыў у Грэцыю Арфэй, заснавец гарадоў, вучыцель мастацтва і рамёстваў. З поўначы занёс Прамэтэй сьвятло, за што быў няміласэрна пакараны.

Прамэтэй, першы цывілізатар Грэцыі, прыкаваны за гэта да Каўкаскае гары, паводля слоў Эсхіла, жаліўся:

«Багі, мне дзеецца крыўда! Паслухайце, што я выканаў дзеля сьмяротных. Дзякуючы мне, із зьвярат, якімі былі, сталіся людзьмі. Сьляпыя, глухія, як мары, яны туляліся без правоў і ладу, ня ўмелі будаваць дамоў, пячоры былі ім адзіным прытулкам, цягнулі жыцьцё няпэўнае; не разрозьнівалі часу і пораў году. Я першы навучыў іх пазнаваць ход зораў, навучыў іх знакаў пісьма, знакаў лічэньня, абдарыў іх памяцьцю, маткаю муз, навучыў іх лавецтва. Зашто-ж карае мяне завідны Зэўс? Ці-ж бы сьвятло, што зьбліжае людзей да багоў?»

Грэцкія пісьменьнікі самі сьветчаць, што паўночныя народы, якія жылі на поўнач ад іх, занесьлі ў Грэцыю ня толькі некаторыя мастацтвы, але і цэлую рэлігійную сыстэму, навукі і ўмеласьці. Славянскія народы, як прыкладам, — Курэты, Квірыты або Крывіты, — ужывалі рунічнага пісьма задоўга да прыбыцьця ў Грэцыю фэніцыянскага Кадмуса. Іхныя будоўлі нагадвалі цыклёпічныя, адзначаючыся нязвычайнай трываласьцю. У першых іхных сялібах, на гарах Алімпійскіх, Гэліконскіх і Пандэйскіх насамперш зараджаецца рэлігія, музыка і філёзофія, якой пасьля славілася Грэцыя. Згэтуль выходзіў Апалён, які займаўся тут пастырствам. Арфэй (orfeos — цёмны), праўдападобна сьляпы, як Гомэр, сваёй вымоўнасьцю аблашчваў дзікіх зьвяроў і лагодзіў дзікасьць тыбульскіх барбараў. На чароўныя, адкудныя гуды ягонае ліры, палі зьмяняюцца ў гарады (грэцкі горад — paleis), Ален, Тамарыс і Лінэй, таксама як Арфэй, сваімі прамовамі схілялі тыбульцаў пакінуць людзкія ахвяры багом, а, здаецца, і вырачыся людаедзтва.

Але ёсьць народы, як і паасобныя людзі, прызначаныя быць ня толькі мэсіямі чалавецтва, але і ягонымі адкупіцелямі. Да гэткіх належыць народ гетаў з усімі ягонымі галінамі. І мы бачым: Прамэтэя за ягоныя дабрадзействы, выказаныя людзям, расьпялі на Каўкаскай скале. Арфэя разьдзерлі п'яныя жанкі, упаўшыя ў шал. Фастыйскія пэлязгі за недаверства паганізму былі пабітыя Грэкамі і патопленыя ў моры. Троя, сялянская сяліба між Грэкаў, збураная Грэкамі. Урэшце Грэкі, падбіўшы сваіх даўных вучыцялёў і цывілізатараў, нішчаны, стараліся зьняславіць іх перад гісторыяй, няслушна прыпісваючы ім нялюдзкія абычаі і чараўніцтва.

Перш, чымся стаўся носьбітам веды і задаўся мэтамі мэсіянізму, народ гетаў павінен быў прайсьці сам рад нутраных пераабражэньняў і рэформаў.

Першым рэфарматарам быў Зарада. Да яго існавала ў гетаў супольнасьць жанок і маемасьці. Народ займаўся толькі лавецтвам. Ён навучыў ратайства і завёў свабодны выбар жон і жонамі мужоў, раз кажнага году. Штогодна меў права муж зьмяніць жонку і жонка мужа. Дзень гэты быў названы Купальлем, дзеля таго, што ў гэты дзень павінны былі кандыдаты да жаніцьбы адбыць ачышчэньне праз агонь і купаньне ў вадзе. Кажная пара магла мець сваю собскасьць і аддзяліцца ад грамады. Ніхто ня мог карыстацца чужой працай. Кажны пільнаваў ладу ў сваёй сям'і і дома быў поўным сувэрэнам. За крыўды, зробленыя суседу, караў сход суседзяў. Але сем'і пачалі множыцца і бацькі мала-па-малу ўстанавілі патрыярхат, неабмежаваную нічым уладу галавы сям'і над усімі сям'янамі. Прычым патрыярхі неахвотна выпушчалі каго-колечы зь сям'і, і сем'і разрасьліся да 100—200 душаў. Собскасьць у сем'ях сталася сямейнай собскасьцю, або іначай кажучы собскасьцю патрыярха, як і ўсе жанкі сям'і. Пайшло агульнае незадаваленьне.

У гэтым часе аб'явіўся другі рэфарматар Багавей, які высунуў на першы плян касту сьвятароў. Апавешчаная была сьвятарская дыктатура; зямля, як належная да Бога, была аддадзеная на ўласнасьць галоўнай сьвятыні. Усе жыхары, і бацькі і дзеці, павінны былі нароўні прадаваць для багоў і сьвятыняў. Як найсьвяцейшая праца была палічана праца ратайская. Сымбалем яе ўстаноўлены быў белы бык, які атрымаў асаблівую пашану пры сьвятынях. Пры гэтым ладзе хутка ратай стаўся паніжаны да безгалосае скацежыны, за якую думае гаспадар. Каб патушыць нарастаньне рэвалюцыі, сьвятары пайшлі на ўступкі: прызналі роўнае права з сабой галовам родаў. Утвораны быў духоўна-арыстакратычны ўрад, які, прыкрываючыся воляю багоў, выдаваў ад іхнага імя свае загады, маючы, перш за ўсё, на мэце свае карысьці. Гэтая тройца — духавенства, старшыні і багі моцна і надоўга селі на карак рэшты народу. Але ў гэтым часе пачалі адбывацца напады суседніх вандроўных народаў, абарона ад якіх вытварыла, мала-па-малу, трэйці стан — вайсковы. У супалку — багі, сьвятары, старшыні — павіны быць прынятымі і вайскоўцы.

Калі мы прыглядзімся да зьместу нашых народных казак, дык гэтую гісторыю мы знойдзем там перададзеную ў сымбалях. У сялянскай сям'і, прыкладам, родзіцца які-небудзь Кацігарошак, найдужэйшы за ўсіх, якія ёсьць,

*Красачкі з савецкага раю*

# Чаго яны баяцца

Швайцарыя — бадай найспакайнейшы й найбольш міралюбны край у сьвеце. Швайцарцы даўно зьнеахвоціліся да войнаў. У прыгожых сакавітых альпэйскіх далінах яны гадуюць і пасуць кароў, з малака якіх робяць ведамыя на ўвесь сьвет сыры. Ня менш ведамай зьяўляецца швайцарская традыцыя вырабаў гадзіньнікаў. Край — адзін з найбольш культурных і заможных. Народ спакойны, салідны, чэсны. У Швайцарыі людзі ня любяць замкоў на дзьвярох, праступкі амаль не здараюцца.

Можа дзеля гэтых усіх вартасьцяў сталася так, што пераважна ў Швайцарыі адбываюцца міжнародныя канфэрэнцыі, зьезды, нарады. Швайцарцы прывыклі да чужаземцаў, да іх часам дзіўных звычаяў, захоўваньня і перасталі дзівіцца...

Але вось распачалася цяперашняя Жэнэўская канфэрэнцыя і над спакойны Леман пачалі зьяжджацца камуністычныя дэлегацыі з Савецкага Саюзу, Кітаю, Паўночнай Карэі і ў канцы — зь Ветміну. І толькі гэтыя дэлегацыі прымусілі Швайцарцаў зьдзівіцца. Камуністыя зажадалі асобных гатэляў або віляў, каб ніхто да іх ня меў доступу. Калі на таможнай, паводля звычаю, зважылі самаход Молатава, аказалася, што аж пяць тонаў важыў ён, якраз два разы болей, чымся нармальны самаход такой самай вялічыні. Аказалася, што самаход мае падвойны сталёвы панцыр, а шкло ў шыбах адпорнае на кулі й асколкі. Калі Молатаў едзе на паседжаньне з абстаўленай ахаронай вільлі, зь пераду і з заду яго едзе некалькі самаходаў ягоных апрычнікаў — ахароны. Сярод шматкольkаснай савецкай дэлегацыі ёсьць шмат людзей, якія ня маюць выгляду ані дыпляматаў, ані іхных дараднікаў. Вочы іх бегаюць, як мышы, а рукі пераважна ў кішэнях, дзе звычайна напагатове знаходзяцца наганы.

Здарылася, што разагнаны самаход кітайскага міністра Чу-Эн-Ляя мусіў раптоўна спыніцца. Маланкай зь едучых за ім самаходаў выскачыла каля дзесятка Кітайцаў і сьцяной грудзей ды пісталетаў акружылі свайго міністра, каб яго бараніць ад уяўленай напасьці. Ніхто на яго не хацеў нападаць, а самаход затрымаўся на сыгнал ля скрыжаваньня вуліц.

Аднаго дня паўночнакарэйскі дыплямат зьвярнуўся на вуліцы да Швайцарца з пытаньнем, дзе можна купіць добры гадзіньнік. У гутарцы пачаставаў яго цыгарэткай. Швайцарац узяў цыгарэтку і ўсунуў руку ў кішэнь, каб дастаць сярнічкі. Але страх мае вялікія вочы. Карэйскі дыплямат не падумаў, што можна дастаць штосьці іншае, чымся пісталет, таму, не чакаючы, кінуўся ўцякаць.

Шмат яшчэ здаралася падобных сьмешных выпадкаў.

Швайцарцы, хоць да розных чужаземцаў прывыклі, глядзяць і дзівяцца: «Чаго яны гэтак баяцца?»

Якая розьніца паміж камуністычнымі дыпляматамі і іхнымі калегамі з вольнага сьвету. Прыкладам, ангельскі міністар Ідэн, загуляўшыся позна ў брыджа, ня меў ніякае аховы, а толькі з сваім сакратаром узяў звычайнае таксі і паехаў да сябе ў гатэль.

Узапраўды, чаго яны баяцца?

Адказ просты. У камуністычных краінах, дзе ўсё трымаецца на тэроры, верхаводаў гэтых краінаў народ ненавідзіць. Яны там могуць спадзявацца толькі народнай помсты. Яны езьдзяць толькі ў таварыстве шматлікай аховы і ў панцырных самаходах. Ім і на думку ня прыходзіць, што ў вольным сьвеце людзі сваіх правадыроў выбіраюць, што іх любяць і не жадаюць ім нічога благога.

Хто сее вецер, баіцца буры. На злодзеі шапка гарыць. Камуністычныя дыпляматы сеюць вецер і ня маюць чыстага сумленьня. Таму іх ніколі не пакідае страх.

пс

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ».**

## Папяровы патоп

Бюракратызм — апора камуністычных верхаводаў, але змора беднага работніка й калгасьніка. Саветы — краіна спаборніцтва, але толькі спаборніцтва бюракратаў там стаіць на запраўдным недасяжным узроўні. Стаіць яно на такой вышыні, што нармальнаму чалавеку аж галава круціцца, быццам ён падняўся за межы стратасфэры нармальнага глузду.

Каб ніхто нам не закінуў тэндэнцыйнасьці, падаём выпіскі з савецкай прэсы:

«Гомельскі абком разаслаў у райкомы ў 1953 годзе пяцьсот пастановаў, у тым трыста ў гаспадарскіх справах» («Зьвязда» за 2. 2. 1954 г.).

«Падчас абласных партыйных канфэрэнцыяў, якія адбыліся ў лютым г. г., даслоўна ўсюды абкомы прыгатаваліся да кіраўніцтва «па канцылярску», гэта значыцца — пастановамі.

Менскі абком за 1953 год атрымаў ад ЦК 254 пастановы, а ад Савету Міністраў БССР — 66. Разам 320. А ў сваю чаргу сам за гэты час прыняў 238 пастановаў» («Зьвязда» за 14. 2. 1954 г.).

Ну што-ж, — папера цярплівая...

«К. Мазураў — старшыня Савету Міністраў БССР сьцьвярджае:

Савет Міністраў БССР, вырашаючы пытаньні сельскай гаспадаркі, не праводзіў неабходнай арганізацыйнай работы па выкананьні пастановаў, слаба разьвіваў ініцыятыву мясцовых работнікаў і знаходзіўся ў палоне папераў. За працяг часу пасьля верасьнёвага пленуму ЦК КПСС Савет Міністраў прыняў 270 пастановаў па пытаньні разьвіцьця сельскай гаспадаркі. Распрацоўка гэтых пастановаў і абмеркаваньне іх адабралі ў нас шмат часу, але ня былі праведзеныя работы па выкананьні гэных пастановаў» («Зьвязда» за 18. 2. 1554 г.).

Думаем, што да вышэй сказанага камэнтараў не патрэбна. Камэнтуе гэную бязглузьдзіцу ахвяра вадагалоўнай паводкі — бедны калгасьнік, якому ўсе гэныя крайкомы, абкомы, райкомы ўжо комам становяцца ў горле. Толькі, што ён камэнтуе ня літаратурнай, хаця й ядранай, мовай.

# Заказвайце творы Купалы

**Кажны духова творчы і культурна дасьпелы народ мае сваіх найвялікшых мастакоў слова і волатаў духа, творчасьць якіх дае яму магутную нацыянальную сілу, гартуе волю, будзіць веру ў будучыню, а ў мамэнтах нядолі дае сілу перагрываньня. Такая творчасьць зьяўляецца н а ц ы я н а л ь н ы м е в а н г е л ь л е м народу і на ёй узгадоўваюцца цэлыя пакаленьні. Разам з гэтым яна рэпрэзэнтуе дадзены народ у сьвеце, бо яна найлепей сьветчыць аб узроўні ягонага духовага, нацыянальнага і культурнага разьвіцьця, наглядна паказвае, чаго варты дадзены народ.**

**Для беларускага народу такой зьяўляецца творчасьць ЯНКІ КУПАЛЫ, нашага найвялікшага нацыянальнага паэты, духовага правадыра народу і агульна прызнанага прарока беларускага нацыянальнага адраджэньня.**

**Каб зрабіць літаратурную спадчыну Купалы даступнай для нашай эміграцыі і памагчы ёй гэтым перагрываць цяжкія гады выгнаньня, а таксама паказаць перад сьветам нашыя найвялікшыя нацыянальныя скарбы, Выдавецтва «Бацькаўшчыны» выпускае ў сьвет вялікі том выбраных твораў Янкі Купалы, які заканчвае ўжо друкаваць.**

**Зборнік так зрэдагаваны і ўкладзены, што ў суме ён дае ўсё найлепшае й найбольш характарыстычнае з Купалавай творчасьці, дае фактычна цэлага Купалу. Апрача карацейшых лірычных і эпічных твораў нашага найвялікшага паэты, разьбітых на адзінаццаць вялікіх разьдзелаў, у зборнік уведзеныя й два вялікія мала ведамыя творы Купалы: драматычная паэма «Сон на кургане» і паэтычны перасьпеў найвыдатнейшага сярод усіх Славян беларускага гэраічнага эпасу XII стагодзьдзя «Слова аб палку Ігаравым». Такім чынам, разам з двума апошнімі творамі, зборнік будзе падзелены на XIII разьдзелаў ды будзе папярэджаны грунтоўным артыкулам аб жыцьці й творчасьці Янкі Купалы.**

**Зборнік абыймае звыш 500 балонаў друку вялікае васьмёркі і зьмяшчае каля дзесяці ілюстрацыяў: фотапартрэты аўтара з розных пэрыядаў ягонага жыцьця і іншыя ягонай творчасьцю і жыцьцём. Часьць зборніка друкуецца на звычайнай друкарскай, але добрай, паперы, а часьць на бліскучай люксусовай паперы і будзе мець ілюстраваную каляровую вокладку.**

**Канчальна ўстаноўленая цана зборніка наступная:**

**1. На добрай паперы ў мяккай папяровай вокладцы — 8 амэрыканскіх даляраў.**

**2. На добрай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы зь няпрымацаванай папяровай вокладкай зьверху — 10 амэрыканскіх даляраў.**

**3. На бліскучай люксусовай паперы ў цьвёрдай палатнянай вокладцы зь няпрымацаванай папяровай вокладкай зьверху — 12 амэрыканскіх даляраў.**

**Ува ўсіх іншых краінах, паза Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі, раўнавартасьць вызначанай даляровай сумы ў мясцовай валюце.**

**З гледзішча на вялікі разьмер зборніка, добрую якасьць паперы й высокае мастацкае й тэхнічнае афармленьне вышэй пададзеная цана ня ёсьць высокая. Яна аблічаная так, каб не зарабіць, але прынамся вярнуць кошты, уложаныя ў выданьне зборніка.**

**Пашырэньне зборніка зьяўляецца важнай нацыянальнай справай і нашым адказным заданьнем. Таму мы зьвяртаемся з просьбай да ўсіх нашых сталых кальпартэраў, як і да паасобных людзей добрае волі, якім залежыць, каб Купалавы творы трапілі да кажнага нашага суродзіча, б е з а д к л а д н а — ужо цяпер — зьбіраць перадплату на зборнік і перасылаць на адрас нашых П р а д с т а ў н і к о ў і К а л ь п а р т э р а ў, пасьля чаго будзе ім высланая адпаведная колькасьць зборнікаў дзеля раздачы тым, якія за яго заплацілі. Асобам, за якіх паручацца нашыя арганізацыі і возьмуць на сябе адказнасьць, зборнік можа быць прадаваны і на кароткатэрміновыя сплаты. Пры перасыланьні нашымі арганізацыямі й кальпартэрамі грошаў за зборнік просім ня зьмешваць іх з грашыма за іншыя кніжкі Выдавецтва «Бацькаўшчыны», але зазначаць на паштовым перakaзе, што грошы гэтыя на зборнік твораў Купалы.**

**Дык распачнём-жа безадкладна гэтую акцыю пад лёзунгам: к а ж н а м у Б е л а р у с у — з б о р н і к К у п а л а в ы х т в о р а ў!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

**А Д Р Э Д А К Ц Ы І**

**Наступны нумар «Бацькаўшчыны» выйдзе падвойным за 30. 5. 1954 г.**

## ПАСЬЛЯ СССР БЕЛАРУСЬ І ЎКРАІНА ПРЫНЯТЫЯ Ў УНЭСКО

Француская газэта «Ле Монд» за 13 травеня сёлета падала зь Лёндану наступны камунікат:

«Якуб Малік, амбасадар СССР у Вялікабрытаніі, падпісаў гэтае раніцы (серада 12 травеня) устаноўчы акт з УНЭСКО (культурная й навуковая міжнародная арганізацыя, падпарадкаваная Задзіночаным Нацыям — Рэд.) ад імя Беларусі і Ўкраіны (аб уваходзе апошніх у склад УНЭСКО — Рэд.). Амбасадар зрабіў быў падобныя захады тры тыдні таму й за Савецкі Саюз. Подпіс, пакладзены сяньня раніцай, не зьявіўся сюрпрызам у кампэтэнтных колах Лёндану».

## ШУКАЮЦЬ

**Брата Пятрука Скопеця,** сына Андрэя й Натальлі, які выехаў перад першай сусьветнай вайной у Канаду, і **стрыечнага брата Івана і сястру Марысю,** якія жылі на Бацькаўшчыне ў сяле Лоск Забрэскай воласьці Валожынскага павету, шукае Тамаш Скопець. За весткі аб вышэйназваных асобах дам 5 ангельськіх фунтаў узнагароды. Весткі слаць на адрас:

T. Skopiec, 468 Hornsey Road,
London, N. 19, England.

## Нашыя Прадстаўніцтвы

**Ангельшчына:**
**Mr. Aleksander Lašuk,** 97 Moore Park Road, London S. W. 6.

**Бэльгія:**
**Zora Savionak,** 19, Place Hoover, Louvain.

**Данія:**
**J. Lobejko** c/o H. C. Jensen, Leifsgade 6 III tv. Kobenhavn S.

**Францыя:**
Section Bielorussiene de C.F.T.C. 26, Rue de Montholon, Paris 9.
b) **Bonifacy Prytycki,** 17, rue Roger Salengro Lys les Lannoy (Nord).

**Швэцыя:**
**Basil Lukaszyk** c/o Hammer Ringvagen N. 123/III, Stockholm.

**Аргентына:**
**Asociacion Bielorusa en la Argentina.** Calle Coronel Sayos 2981, 4 de Jurio, Prov. Buenos Aires.

**Аўстралія:**
**Mr. Donat Jackievič,** 60 Fisher St., Fast Brisbane, Q-ld.
b) **Mr. L. Pašynkouski,** 60 Stawell St. Burnley, Melbourne, Vic., Australia.
c) **Mr. Jan Čarneckj,** 306, Sandgate Rd., Shortland, N.S.W.
d) **Filip Dareuski, 18 Vindsor St., East Perth, W. A. Australia.**

**Бразылія:**
**Carlos Cimafejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba - Parana.

**Канада:**
**Mr. M. Racycki,** 111 Lindsey Ave, Toronto, Ont.

**ЗША:**
a) **Mr. B. Danilovich,** 222 Suydam St., New Brunswick, N. J.
b) **Mr. M. Serdeczenko,** 7851 Sherwood Ave, Detroit 11, Mich.
c) **Mr. V. Duniec,** 2502 W. 7. St., Cleveland, Ohio.
d) **Mr. E. Budzka,** 2042 W. St. Paul Ave Chicago 47, Illinois

**Новая Зэляндыя:**
**Mr. Marian Karanieuski,** 88, Hercules Drayve, Roxburg-Hydro.

**З гэтых Прадстаўніцтваў просім у паасобных краінах выпісваць «Бацькаўшчыну» й на іх адрас перасылаць за яе належнасьць.**

**З прычыны дэвізовых абмежаваньняў просім усіх нашых Прадстаўнікоў выручаныя за газэту грошы, як і за выдадзеныя «Бацькаўшчынай» кніжкі, перасылаць на адрас нашага фінансавага Прадстаўніка ў Бэльгіі:**
**Janka Žučka,** 19, Place Hoover, Louvain, Belgique.

асілкаў на сьвеце. Падросшы, ідзе нішчыць зло на зямлі і, памалу, дабірае сабе яшчэ двох, а часам трох асілкаў, якія ўрэшце робяць паміж сабой змову, каб загубіць яго, і закідаюць у прадонную, бязвыходную прорву. Але Каціга-рошак раней-пазьней здабываецца з прорвы, пасароміўшы сваіх сяброў, бярэ ў свае рукі кіраўніцтва над сьветам, якому дае спакой і шчасьце.

Пад панаваньнем старшыняў і духавенства, замацаваным вайскоўцамі, ратаі ў грэцкай сымболіцы прыбіраюць постаць аднавокага цыклёпа, а пазьней і сьляпога Паліфэма.

Але яшчэ не канец на гэтым. Чужаземцы, прыйманыя сьпярша як госьці, пачалі панявольваць славянскія народы і, памалу, абяртаць у сваіх нявольнікаў. Вышэйшыя клясы, арыстакратыя і духавенства, зьліліся з пануючымі прыходцамі.

Тут мы маем такую самую гісторыю, як і ў Італіі, дзе, за шмат гадоў да заснаваньня Рыму, жыў высокакультурны народ Этрускаў. Чужаземныя дружыны паняволілі іх, абярнулі ў сваіх нявольнікаў і, пераняўшы ад іх культуру, ачарнілі Этрускаў перад гісторыяй, як дзікіх і нічога ня вартых людзей. Аб дзівах мастацтва, промыслаў і навукаў, аб стане высокай асьветы ў Этрускаў, мы сяньня даведваемся толькі з раскопак іхных магілішчаў і гарадзішчаў. Этруская цывілізацыя загінула ў войнах прыходцаў зь мясцовым жыхарствам. А пасьля, за часоў Сцылія, бязьміласэрна, разам з выдатнейшымі мясцовымі людзьмі, былі нішчаныя ўсе помнікі этрускае культуры, іхныя кнігі і творы іхнага генія. І этруская культура заняпала навекі. Рым пакрыў яе маўчаньнем, абсыпаў лаянкай і зьнявагай.

Пад ударамі чужаземскіх наезьнікаў заняпала і нашая культура, а асабліва ў часе хрышчэньня чужынцамі славянаў.

Трэба памятаць, што міталёгія шмат якіх народаў нічога супольнага з тэасофіяй ня мае, як прыклад можа служыць лацінская міталёгія. Уважаю за патрэбнае гэта зазначыць дзеля таго, каб сталася відней, што з нашае міталёгіі належыць да тэасофіі, а што зьяўляецца толькі сымбалем пройдзенай народам гісторыі.

Ёсьць апавяданьне аб Сатурне, што за ягонае панаваньне быў на зямлі залаты век. Сатурн — бог патрыцыяў. Легенду гэтую, ведама, улажылі патрыярхі, спамінаючы сваё даўнае і бязьмежнае панаваньне. І дарма некаторыя хочуць бачыць у гэтым пэсымізм клясычных народаў, якія кладучы сьпярша век залаты, пасьля сярэбраны, мядзяны, урэшце — зялезны, хацелі, быццам, зазначыць, што — чым далей, тым горш на сьвеце. Не, гэтую гісторыю трэба паставіць у зусім іншае пласмо.

Сатурн пачаў есьці сваіх дзяцей.

Гэтую байку выдумала ўжо каста сьвятароў, сьпіскуючы супраць усеўладнага патрыярхату. Устаноўлены лацінскімі сьвятарамі пазьнейшы лад аддаў уладу ў рукі багатых сем'яў, «абдарыў старшых братоў правам боскім і людзкім» jus pater — (згэтуль Юпітэр), крыўдзячы і вызуваючы з правоў малодшую, ратайскую брацьцю. Утварыліся патрыцыі (паны) і плебэйцы (мужыкі).

Патрыцыі тонуць у збытках і роскашах, плебэй у заплату і падзяку за крывавую працу мае бізуны і розгі. І вось у лацінскім богабайніцтве апавядаецца, што Вэнэра, жонка плебэйскага Вулькана, пачала задавацца з патрыцыянскім Марсам. Вулькан, ня могучы зьнесьці гэткай зьнявагі, абвівае сонных — Вэнэру і Марса — сеткай, падложанай пад іх, і выкідае іх на сьвятло, каб уяўным ужо сталася, што плебс змаўляецца і бяскарна пасягае на правы патрыцыяў. Гэта быў дакор, зроблены Апалёну, вартаўніку правоў. Увесь Алімп устрывожаны. Аполён памярцьвеў ад зьнявагі. Адны багі сьмяюцца, а другія выказваюць злосьць і абурэньне. Юпітэр страшліва загрымеў — quos edo!.. Бачачы аднак прыгожую Вэнэру гэтак зьняважанай, кажа: — «Годзе ўжо ёй... На Вулькана няма спосабаў — quem ego!.. За мяшаньне ў маю спрэчку зь Юнонай у справе наданьня правоў плебэям нядаўна так піхнуў яго я нагой на зямлю, што аж нагу ён зламаў».

У цяжкім палажэньні Юпітэру аж галава трашчыць. Як пагадзіць нязгоду ў народзе, пры ўсёўзрастальных дамаганьнях чэрнядзі, пры заўзятай упорыстасьці патрыцыянскіх багоў?

— Вулькан і Мэркуры не даюць мне спакою ад таго часу, калі Марса з Вэнэрай удалося прылавіць у сетку.

— Чатырох нас, — кажа Мэркуры, — стань, Найвышэйшы, на нашай старане і народная справа будзе выйграная.

— Найвышэйшай рады багоў не перагаласуем, шэсьць галасоў супраць пяцёх, — адказаў Юпітэр. — Што рабіць? Галава трашчыць, што рабіць! Тут мяне рве, ствару Мінэрву. Вулькан, валі молатам у галаву во тут, тут!

Вулькан выконвае загад. А калі, спужаныя відовішчам бацьказабойства, багі зьбягаюцца, бачаць: нованароджаная багіня, узброеная ад ног да галавы, выходзіць із патыліцы Юпітэра. Вось і багіня мудрасьці — Мінэрва.

— Плебэйцы дапамінаюцца правоў, — кажа Мэркуры.

— Пачалі галасаваць. Шэсьць супраць шасьцёх.

— Мне належыць падвойны голас, — крыкнуў Юпітэр.

І справа народу была выйграная.

— Дык занясі ім зямельнае права! — крыкнуў Юпітэр. — Сам пагавару я зь Юнонай і думаю, што яна дазволіць таксама права вольнай жаніцьбы.

Мэркуры, які выконваў абавязкі паштара, панёс ведамку на зямлю.

І плебэйцы атрымалі правы людзкія і цывільныя. А ўсё гэта сталася вынікам неперасьцераганьня правоў бажкамі, залётнасьцю Вэнэры і праз папушчэньне Юпітэра, тлумачылі сьвятары.

Мэркуры, бог купецтва і прамысловасьці ,носіць сьвіту на распашку, служыць усім, хто плаціць: багом і людзям, небу і зямлі. Апякуецца злодзеямі і ашуканцамі.

Пад ягонай апекай вырастае новая арыстакратыя — грашовая. У рады яе ўваходзяць усе, кім апякуецца Мэркуры. І на правы для гэтага стану багі, ад імя сваіх кліентаў, патрыцыяў, павінны былі згадзіцца.

Дарма, што даўно пасвойму разьвязаў Юпітэр зямельнае права, права гэтае да сяньня несправядлівае. І будзе датуль актуальным, пакуль кажны народ ня станецца за гаспадара ў сваім краі, пакуль кажны, хто палівае сваім потам загон, ня будзе праўным, прызнаным і ўсьвячоным правам ягоным валадаром.

Гэты-ж час ужо недалёкі!

**(Далей будзе)**